*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 12 (551) | 20 САКАВІКА 2002 г.


# 25 сакавіка – Дзень Волі



НІХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА!

## Рэспубліканская Рада ТБМ

10 сакавіка адбылося чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Абмяркоўваліся два варыянты праекту Стратэгіі развіцця беларускай мовы. Адзін – падрыхтаваны часткай рабочай групы (аўтарскім калектывам) пад кіраўніцтвам С. Запрудскага. Другі – сябрам гэтай групы С. Суднікам. У спрэчках выказаліся 14 радцаў. Бальшынёй галасоў была прынята пастанова аб стварэнні групы ў складзе А. Трусава, В. Кузьміч, А. Пяткевіча, С. Барыса, Н. Жучковай па рэдагаванні і канчатковай выпрацоўцы адзінага дакумента на аснове двух праектаў. Таксама выказаная падзяка распрацоўшчыкам праекта Стратэгіі: С. Запрудскаму, А. Трусаву, А. Мальдзісу, Г. Цыхуну, С. Кручкову, А. Анісім, У. Кошчанку. Асобна адзначылі ахвярную працу С. Судніка.

На паседжанні разгледжаны праект прапаноў да палажэння аб узорнай беларускай гарадской школе, падрыхтаваны сябрам Рады В. Гарановічам з улікам заўваг А. Трусава і юрыста Н. Жучковай. Вырашана прыняць праект за аснову і даручыць дапрацаваць яго з улікам прапаноў, якія прагучалі на Радзе. Акрамя ўсяго, на паседжанні Рады прынята пастанова аб святкаванні 120-х угодкаў нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа і заява "БТ –2 – павінен быць нацыянальным каналам".

У склад Сакратарыяту ўведзена юрыст Н. Жучкова, а І. Марачкіна кааптаваная ў рэдакцыйную калегію "Нашага слова".

*Ірына Ляксеева*

Пастанова Рады ТБМ ад 10 сакавіка 2002 г.

## Аб святкаванні 120-х угодкаў народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа

1. Прыняць актыўны ўдзел у дзяржаўных імпрэзах згодна з планам, зацверджаным намеснікам прэм'ер-міністра Уладзімірам Дражыным.
2. Падрыхтаваць і выдаць кішэнны каляндарык на 2002 – 2003 гады з выявай Янкі Купалы і Якуба Коласа.
3. Змяшчаць у "Нашым слове" на працягу года публікацыі з жыцця і творчасці паэтаў, іхнія малавядомыя вершы.
4. Прысвяціць спецыяльныя выпускі газеты "Наша слова" жыццю і творчасці паэтаў.

**STOP пераследу журналістаў**

**Міколу Маркевічу і Паўлу Мажэйку, журналістам зачыненай гарадзенскай "Пагоні", інкрымінуюць абразу прэзідэнта. Рэпарцёрам пагражае да 5 гадоў турмы.**

**Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні Дня Волі прыняў**

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

### Шаноўныя суайчыннікі!

25 сакавіка мы будзем святкаваць 84-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэтая падзея адкрыла нашай краіне шлях у сям'ю вольных і самастойных дзяржаў свету, дала беларусам магчымасць самастойна будаваць сваё жыццё, грунтуючыся на прынцыпах дэмакратыі і нацыянальнай незалежнасці.

Менавіта акт 25 сакавіка 1918 года аб абвяшчэнні незалежнай Беларусі стаўся ўзорам пры абвяшчэнні незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, нацыянальныя сімвалы Беларускай Народнай Рэспублікі -- герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг -- былі зацверджаны дзяржаўнымі сімваламі нашай Рэспублікі Беларусь.

Але для пабудовы дэмакратычнага грамадства недастаткова перайсці на дэмакратычныя механізмы кіравання -- трэба навучыцца правільна карыстацца гэтымі механізмамі. У іншым выпадку з'яўляецца небяспека прыходу да ўлады папулісцкіх сілаў, якія маніпулюючы грамадскай свядомасцю, выкарыстоўваюць гэтую ўладу ў асабістых амбітных і карыслівых мэтах. Менавіта ў такой сітуацыі знайходзіцца цяпер нашае грамадства.

За апошнія восем гадоў пасля рэстаўрацыі ў Беларусі недэмакратычнага рэжыму нашая краіна апынулася ў ізаляцыі ад крыніц інвестыцый і сучасных тэхналогій. Бясспынная інфляцыя і рост цэнаў вядуць да жабрацкага стану большасці насельніцтва, агульная колькасць якога ў краіне няўхільна змяншаецца.

Знішчэнню падвяргаецца і духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе плпнамерны наступ на беларускую мову і культуру.

Прадметам гандлю робіцца самае дарагое і каштоўнае -- дзяржаўнасць і незалежнасць краіны.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум. Гэта было абвешчана на Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць 29 ліпеня 2000 г., які прыняў Акт незалежнасці Беларусі...

Віншуем усіх грамадзян Беларусі са святам Беларускага народа -- Днём Волі і заклікаем усіх прыйсці 24 сакавіка а 12-й гадзіне ў сквер Янкі Купалы і ўскласці кветкі да помніка Песняру. Даведкі па тэл. 2-84-50-12.

**Жыве Беларусь!**

# 84-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі

# СТВАРАЕМ АНАМАСТЫЧНЫ СЛОЎНІК ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

Анамастычны слоўнік – гэта даведнік, дзе падаюцца словы, што належаць да ўласных імёнаў. Назва анамастычны ад ***анамастыка*** (грэц. ***onomastike*** – майстэрства даваць імёны) – галіна мовазнаўства, якая вывучае ўласныя імёны, інакш ***онімы*** (грэц. ***onyma – 'імя'***).

Анамастыка мае свае адгалінаванні: антрапаніміку (грэц. ***antropos – 'чалавек' і onyma – 'імя'***), якая вывучае антрапонімы – асабовыя ўласныя імёны; тапаніміку (грэц. ***торos – 'месца'*** і ***onyma – 'імя'***), што вывучае тапонімы – назвы геаграфічных аб'ектаў (гарадоў, мястэчак, вёсак, узвышшаў) ды іншыя адгалінаванні. Тапаніміка мае і свае адгалінаванні: мікратапаніміку (грэц. ***mikros – 'малы'***), якая вывучае мікратапонімы – назвы дробных геаграфічных аб'ектаў (палёў, пашаў, лугоў, зараснікаў, сенажацяў і іх частак); урбаніміку (лац. ***urbanus – 'гарадскі'*** і ***onyma – 'імя'***), што вывучае урбанонімы – назвы ўнутрыгарадскіх аб'ектаў (вуліцаў, плошчаў, паркаў, тэатраў, музеяў і г. д.) ды іншыя адгалінаванні.

Сярод уласных імёнаў найбольшую колькасць складаюць антрапонімы – уласныя назвы людзей: імёны, прозвішчы, неафіцыйныя назвы людзей (мянушкі) і мікратапонімы. Яны звычайна і складаюць асноўны аб'ект анамастычных даследаванняў і змяшчаюцца ў анамастычных слоўніках. Так, у 2000 годзе Магілёўскім дзяржуніверсітэтам імя А. А. Куляшова выдадзены "Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны" (аўтары В. І. Рагаўцоў, С. Я. Кечык), які мае дзве часткі: 1) "Мікратапонімы" і 2) "Мянушкі".

На пачатку 2002 года ў Беларускім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка абаронена кандыдацкая дысертацыя Г. К. Семяньковай "Прозвішчы жыхароў Віцебшчыны: структура, семантыка, геаграфія". Ужо згаданае яскрава сведчыць пра надзённасць і важнасць анамастычнай працы пры вывучэнні лексічнай спадчыны беларусаў. Супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі "Вывучэнне народнай мовы Гарадзеншчыны" пры філалагічным факультэце Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы працуюць над стварэннем слоўніка анамастычнай лексікі Гарадзеншчыны.

Анамастычная лексіка – надта важная крыніца для даследаванняў не толькі навукоўцаў-філолагаў, але і этнографаў, гісторыкаў, фалькларыстаў, бо ва ўласных назвах адлюстроўваюцца тыя рэаліі, з якімі звязана жыццё чалавека, яго працоўная дзейнасць, побыт, культура. Мікратапонімы і антрапонімы захоўваюць каштоўныя звесткі з гісторыі роднага краю, перадаюцца іх ад пакалення да пакалення.

Мовазнаўцаў цікавяць найперш спосабы ўтварэння найменняў геаграфічных аб'ектаў і антрапонімаў, іх структура і шляхі ўзнікнення.

Лінгвістычныя даследаванні ў галіне мікратапанімікі і антрапанімікі Прынёманскага краю ўскладняюцца найперш тым, што да гэтага часу няма грунтоўных лексаграфічных (слоўнікавых) крыніцаў па мікратапанімічнай і антрапанімічнай лексіцы Гарадзеншчыны.

Анамастычны слоўнік, над якім працуе нашая лабараторыя, будзе карысным для ўсіх, хто з пашанай ставіцца да роднага слова. Гэта слоўнік стане надта патрэбным для навукоўцаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і вучняў пры вывучэнні самых розных дысцыплінаў гуманітарнага цыклу. Важную інфармацыю ў гэтым слоўніку знойдуць культуролагі, краязнаўцы і сацыёлагі. Спатрэбіцца ён таксама работнікам мясцовай ўлады, міліцыі, памежнікам, усім, хто ў штодзённай працы мае дачыненне да назваў мясцовых геаграфічных аб'ектаў. Антрапанімічная частка слоўніка паслужыць справе ўпарадкавання іменаслову гарадзенцаў, бо не сакрэт, што работнікі аддзелаў пашпартна-візавай службы, ЗАГСаў, аддзелаў кадраў маюць шмат праблемаў, звязаных з захаваннем аднастайнасці ў напісанні прозвішчаў і імёнаў, а таксама пры перадачы іх сродкамі іншай мовы.

Навукоўцамі нашай лабараторыі ўжо сабраны і апрацаваны багаты матэрыял для анамастычнага слоўніка: каля 15 тысячаў мікратапонімаў і каля 8 тысячаў прозвішчаў жыхароў Ваўкавыскага, Воранаўскага, Дзятлаўскага і Зэльвенскага раёнаў. Частка апрацаванага матэрыялу – прозвішчы жыхароў Зэльвеншчыны – апублікавана ў кнізе "Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны" (Гродна, 1999) як спробны фрагмент слоўніка антрапонімаў.

Мяркуем, што да працы ў стварэнні "Анамастычнага слоўніка Гродзеншчыны" варта далучыцца школьным настаўнікам, кіраўнікам краязнаўчых гурткоў, студэнтам і вучням, усім, хто мае занатаваныя мікратапанімічныя адзінкі пэўнай мясцовасці, даслаўшы іх у нашую лабараторыю. Імёны аўтараў, якія дашлюць свае матэрыялы, абавязкова будуць паказаныя ў гэтай кнізе (слоўніку).

Асаблівую цяжкасць у цяперашні час набывае збор прозвішчаў жыхароў Гарадзеншчыны, бо фактычна няма доступу да агульных (сістэмных) спісаў насельніцтва ў адрасных сталах. Нашыя звароты да кіраўнікоў рознага рангу пакуль што не далі жаданых вынікаў. Таму звяртаемся з просьбай да ўсіх, хто мае доступ да спісаў насельніцтва вобласці, раёнаў, сельсаветаў, дапамагчы нам у зборы прозвішчаў. Дасылайце свае матэрыялы на адрас: Гродна, вул. Леніна, 32, пакой 18. НДЛ. Якубовіч Т. А.

Будзем вельмі ўдзячныя Вам за дапамогу ў стварэнні гэтай надта патрэбнай усім нам кнігі.

***П. У. Сцяцко, навуковы кіраўнік навукова-даследчай лабараторыі "Вывучэнне народнай мовы Гродзеншчыны", доктар філалагічных навук, прафесар***

***В. М. Ламака, навуковы супрацоўнік лабараторыі.***

**Культура мовы**

# ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА СТРУКТУРНА-СІСТЭМАВЫХ НОРМАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МОВЫ

Кожная нацыянальная мова мае свае адмысловыя структурна-сістэмавыя нормы на ўсіх моўных ярусах (роўнях) – лексічным, марфемным, фанемным і граматычным.

У варунках дзвюхмоўя (шматмоўя) гэтыя нормы нярэдка парушаюцца пад уздзеяннем дамінавальнай мовы. Такі працэс быў асабліва актыўны падчас панавання ідэалогіі "зліцця нацыяў" у адну супольнасць – "савецкі народ" з адзінай для ўсіх моваў (расейскай) як усесаюзным стандартам. Вынікі такой моўнай палітыкі актыўна ўкараняліся ў даведнікі – слоўнікі і граматыкі нацыянальных моваў.

Падчас нацыянальна-культурнага адраджэння беларускі нацыянальны друк узяў курс на аднаўленне законаў роднай мовы. Гэта ў пэўнай ступені знайшло свой адбітак і ў даведніках, асабліва тэрміналагічных слоўніках.

Аднак "замацаваныя" за 70 гадоў усесаюзныя стандарты яшчэ працягваюць сваё існаванне ў моўных тэкстах. Спынімся тут на некаторых такіх парушэннях нормаў беларускай нацыянальнай мовы ў перыядычным друку.

***Карэнішча*** – а не ***карнявішча***. *"Яны з цяжкасцю выбіралі тупкія травяністыя, з моцнымі карнявішчамі ка[illegible]лкі дарог"*. Слова ***"карнявішча"*** – утварэнне ад ***"карнявы"***, якое ад ***"корні"***. Беларускай мове згаданы формы неўласцівыя. Ніводны акадэмічны слоўнік іх не фіксуе. Расейскаму ***корневище*** ў беларускай мове адпавядае натуральнае ***карэнішча*** – ўтварэнне ад ***карэнне (карэнішча)***. Так, у РБС-53 (с.214) чытаем: "Корневище ср. 1..бот. карэнішча. 2. (корень) корань". Тое самае ва ўсіх яго перавыданнях (напрыклад, РБС-93. Т.1.С.669). "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 г. (с. 589) таксама фіксуе: "Карэнішча ср. бот. корневище".

І ў тлумачальных слоўніках няма штучнай формы ***карнявішча***, а толькі натуральнае, заканамернае ***карэнішча***. Яно падаецца з наступнымі значэннямі: "Карэнішча, -а, н. 1. Падземнае сцябло шматгадовых травяністых раслін, якое адрозніваецца ад кораня наяўнасцю недаразвітага лісця. 2. Асноўны, галоўны корань дрэва, які з'яўляецца прадаўжэннем ствала" (ТСБЛМ. С.282).

***Бізун, пуга і кнут.*** *"Зараз жа ён ткнуў яго кнутом"*. Тут неўласцівае беларускай мове слова ***"кнут"***. Беларускімі эквівалентамі гэтага расейскага слова выступаюць ***пуга*** і ***бізун***. "Руска-беларускі слоўнік" (РБС-53) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі падае: "Кнут, м. 1. Пуга. 2. Перен. бізун" (с.203). Тое самае і ў яго перавыданнях: РБС-82 (Т.3.С.360), РБС-93 (Т.1.С.638) і іншшых. Не фіксуюць гэтага ***"кнута"*** і тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы. На месцы русізму ***"кнут"*** натуральна ўжыць ***бізун***. Яго падае "Тлумачальны слоўнік" 1996 г. (с.88) з наступным значэннем: "Бізун, -а, мн. –ы, -оў, м. Плецены з раменных палосак арапнік або вітая з ільну, канапель пуга". Тут бачым і ўстойлівае словаспалучэнне: "Усыпаць бізуноў" (разм.) – пакараць каго-небудзь, адсцябаць".

Не стасуюцца з нормамі нацыянальнай мовы і іншыя формы словаў і сінтаксічныя канструкцыі, якія былі ў друку.

Гэта: 1) набліжаныя да расейскіх формы словаў: ***паленні*** (падкідаючы ў кастрышча новыя паленні); ***каменні*** (дзве медныя постаці юнакоў з вачыма – сінімі каменнямі), ***мядзвежых*** (сядзяць на мядзвежых шкурах); ***павырваць*** (за касу ўхапіць ды валоссе павырваць); ***прахалодных*** (спыніўся на прахалодных тоўстых падвалінах паміж разьбяных слупоў);

2) сінтаксічныя канструкцыі: было ўжо спаўзала зняважлівая ўсмешка на яго вусны; прагаварыў гэта пра сябе так хутка, што тут жа і рассмяяўся.

У адрэдагаваным варыянце тэксту павінны быць: ***пале'ны*** (а не *паленні*), ***камяня'мі*** (замест *каменнямі*), ***праменях*** ці ***промнях*** (а не *праменнях*), ***бярвёны*** (а не *бярвенні*), ***мядзведжых*** (з чаргаваннем *дз-дж*, а не *дз-ж*), ***халаднаватых*** або ***з халадком*** (а не *прахалодных*), ***была ўжо спаўзала*** (усмешка), а не *было спаўзала*), ***прагаварыў сам сабе*** (г.зн. 'нягучна'), а не *пра сябе*), ***павырываць*** або ***вырваць*** (а *не павырваць*).

***Павел Сцяцко, прафесар, доктар філалагічных навук.***

**Думкі – стрэмкі**

# І дзе мне ўзяць такую песню?

Каб яна за душу ўзяла, да самага сэрца дайшла, усцешыла яго мудрым словам і "салодкагучнай" мелодыяй? Песню, якая абудзіла б успамін аб даўно пакінутай вёсцы, адкуль многія з нас пайшлі ў гарады, аб гаючых барах, жытнёвых нівах, гаманлівых крынічках. З такой задумкай – адшукаць беларускія песні, запісаныя на аўдыёкасеты – я ішоў на гарадскі рынак. Там у прыватных шапіках, а то і проста на сталах яны ляжаць шчыльнымі штабелькамі. Падыходжу да першага. Малады, з пастрыжанай пад "вожык" галавой, хлапчына звяртае на мяне ўвагу "Что желаете". Гавару, што купіў бы касету з беларускімі народнымі песнямі, ды і ад эстрадных, але сваіх, беларускіх, не адмовіўся б. Ён тут жа адказвае: "У меня товар из России, белорусских касет нет, да их никто и не спрашивает".

- А вы то сам – беларус, тутэйшы? – пытаюся ў яго.

- Ну, белорус, но песень белорусских не люблю.

- То мо кнігі нашых пісьменнікаў-землякоў чытаеце? – не адступаюся, закрануты, як кажуць, за жывое.

- Не интересуюсь, - чую адказ, -- і па твары, пуставатых вачах бачу – не хлусіць, шчыра прызнаецца ў сваім невуцтве.

І тут жа на поўную гучнасць уключае магнітафон з чарговай расейскай папсой. Такія кожную раніцу, пасля перадачы апошніх навінаў чуем мы па рэспубліканскім радыё.

- А ведаеш, як клічуць людзей, што адцураліся сваёй мовы, культуры, народных песень? – бяру хлапца на "абардаж".

Ён здзіўлена пазірае на мяне, паціскае плячыма. Такіх пытанняў, мусіць, яму ніхто не задаваў яшчэ.

- Манкуртамі, - гавару яму і крочу да чарговай "кропкі" па продажу касет. Там ад прымальніка, ветлівага хлапца чую ўжо знаёмае: "Товар у меня из России, все до одной кассеты".

- А можа нешта нашанскае і знойдзецца? – задаю яўна наіўнае пытанне.

- Возьмите видиокасету с белорусским фильмом "В бой идут одни старики", - адказвае хлапец і дастае яе з палічкі-стэлажа.

Тлумачу яму, што фільм гэты, мною любімы, здымаўся ў пару "развітога сацыялізму" і да Беларусі не мае ніякага дачынення, як і яго рэжысёр і галоўны герой.

- Ну, тогда извините – ничем не могу помочь, - адказвае спачувальна хлапец.

Заглянуў ў нядаўна адкрыты ў цэнтры горада, каля аптэкі № 80, магазін па продажу тэлерадыёэлектронікі з інтрыгоўнай назвай "Легион". І там на просьбу паказаць хоць адну касету з беларускімі песнямі, чую ўжо знаёмае і раздражальнае: "Таких нет, товар у меня российский".

Незалежны друк б'е сёння трывогу, што нашы буйныя прадпрыемствы ва ўмовах, калі свае алігархі не выраслі, коцяцца ў абдымкі расейскіх. А тыя дыктуюць свае ўмовы – выгадныя перш за ўсё ім. А хіба падобнае не назіраецца і ў сферы культуры?

Нашы рынкі, кніжныя і касетныя шапікі, завалены выключна расейскімі таварамі, там у відэазапісах – сотні замежных і расейскіх фільмаў пераважна дэтэктыўнага жанру. Такія ж можна кожны дзень убачыць, па восем-дзесяць на дзень – у праграмах пяці тэлеканалаў і больш за ўсё – па БТ. Ужо ў горадзе адзіны кніжны магазін звялі спярша да дальняга кутка ў даволі ўмяшчальнай, плошчай не менш трохсот квадратных метраў гандлёвай залы. А нядаўна, палічыўшы кніжны "тавар" непрыбытковым, адвялі пад яго "каморку" плошчай не болей пятнаццаці квадратных метраў. Там жа. А на выслабаненай плошчы ў тым дальнім кутку размясцілі тэлерадыётавары. Фактычна горад з насельніцтвам у 70 тысяч чалавек, сёння не мае кніжнага магазіна.

Вось і ўспамінаецца мне вядомая ў 20-30-я гады на флоце песенька:

"Эх, яблочко, куда ты котишься, к белым в руки попадешь, не воротишься"!

Тое самае можа адбыцца і з нашай культурай. Калі Беларусь канчаткова пяройдзе у абдымкі суседкі-Расіі – канец ёй непазбежны і аб гэтым не трэба забываць усім нам.

***Міхась Тычына, г. Слуцк***

З нагоды стодзесятай гадавіны з часу народзінаў

*Не з вас свет пачаўся…*

# Чарвякоў папярэджваў

Улада на Беларусі ізноў, ужо каторы раз, “не заўважыла”, праігнаравала яшчэ адну важную падзею з летапісу Беларусі: сто дзесятую гадавіну з дня народзінаў Аляксандра Чарвякова. Сёняшнія ўладнікі, спадзяюся, ведаюць, хто такі Аляксандр (Алесь Чарвякоў, які ягоны ўклад у дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі. А тым, хто ўпершыню чуе гэтае імя, энцыклапедычна нагадваю:

… Нарадзіўся 25.02. (8.03) 1892 года. Дзяржаўны дзеяч Першага студзеня 1919 г. разам яшчэ з пяццю сябрамі Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі падпісаў Маніфест аб абвяшчэнні БССР. Аднаго толькі гэтага было б дастаткова, каб згадаць імя слыннага сына Беларусі, зладзіць якуюсь дзяржаўную імпрэзу. І не толькі дзеля А.Чарвякова, але як гістарычны факт памкнення беларусаў да свае дзяржаўнасці. Не зладзілі! Не да Чарвякова! Не да беларускай гісторыі! Няма калі! Дый не тыя памкненні ў сённяшніх уладальнікаў на Беларусі. Ім трэба інтэграваацца, а не гісторыю варушыць. Але ўсё ж вернемся да Чарвякова. Вы б паглядзелі, які ён быў шчаслівы, калі падпісваў згаданы маніфест, калі абвяшчалася БССР.

Радасць гэтая была неймаверная. Яшчэ гадоў колькі пра гэта і марыць не



можна было. А тут табе і Маніфест, і Беларусь абвешчана дзяржавай! Каго б гэта не ўсцешыла! От на гэтай хвалі А.Чарвякоў працаваў да самазабіцця аж да 1937 года. Быў ён і старшыня ЦВК і СНК БССР, меў гутаркі і сустрэчы з Ульянавым-Леніным. Разам з клопатамі пра развіццё эканомікі, ён дбаў і аб культуры Беларусі. Любіў мовы. Сам карыстаўся беларускай, рускай, польскай. Умеў трохі і габрэйску. На якой хто мове да яго звяртаўся, на той ён і адказваў.

Згадваюць: запрасілі яго на адзін сход. Дык ён прывітаў яго адразу на чатырох мовах: напачатку пабеларуску. Затым – па-руску, па-польску і па-габрэйску. Тады ж на Беларусі былі чатыры дзяржаўныя мовы. І хоць пад апекай дзяржавы былі чатыры мовы, Чарвякоў аддаваў перавагу тытульнай мове. От, прыкладам, які погляд меў першы ўсебеларускі староста А. Р. Чарвякоў пра нашу мову:

***“Трэба шанаваць мову. Так, як у свой час трэба было дасканала знаць расейскую, польскую, нямецкую і іншую мову, трэба знаць і беларускую. Ніякіх вольнасцяў! Трэба ў школе беларускай паставіць працу так, каб вучань усюды чуў і практычна вывучаў добрую, чыстую беларускую мову.***

***Трэба ў школах-камунах, дзіцячых беларускіх дамах і гэтак далей падбіраць склад настаўнікаў, кіраўнікоў, кухарак, швачак і іншых такіх, якія б таксама добра гаварылі пабеларуску.***

***На лекцыях беларускай мовы трэба, каб сам настаўнік сачыў за сабой і за вучнямі, выпраўляючы мову, даючы патрэбныя веды вучням. Ніякай вольнасці, інакш будзе блытаніна. Інакш нашы дзеці не будуць ведаць ніякай мовы!”***

*(Газета “Савецкая Беларусь” № 119 за 28.05.1926 г.)*

Да гэтых слоў няма чаго ні дадаць, ні адняць. Яны і сёння надзённыя і мо як ніколі. Адно хіба ўсё ж дадамо: Аляксандр Чарвякоў быў наш першы прэзідэнт. Нагадваю гэта сённяшнім нашым уладальнікам. Так што не з нас пачаўся свет.

Між іншым, першага прэзідэнта Беларусі звалі таксама Аляксандр Рыгоравіч – Аляксандр (Алесь) Рыгоравіч Чарвякоў.

***Уладзімір Содаль.***

# Разам з матчынай мовай

…З тых людзей, што адстойвалі і ўсталёўвалі дзяржаўнасць на Беларусі, мне пашчасцівіла ведаць Змітра Жылуновіча і Аляксандра Чарвякова.

Аляксандр Рыгоравіч вельмі цёпла аднойчы прымаў мяне і Кузьму Чорнага, абяцаў дапамагчы ў нашым пачынанні ўвесці асобныя літары для гукаў *дз* і *дж*, што прапаноўвала літаратурнае аб'яднанне “Узвышша”.

Вышэйшага аўтарытэту, асабліва для сялян, тады ў рэспубліцы не было. Імя Чарвякова вымаўлялася поруч з імем М. І. Калініна. Да яго ў Менск, у невялічкі двухпавярховы домік ЦВК на полошчы Свабоды, плылі хадакі. Яны вярталіся назад, несучы ўжо не надзеі на дапамогу, а самую дапамогу.

Чалавечая патрэба нездарма падпільноўвала старшыню ЦВК у яго паездках па рэспубліцы. У 1927 годзе ён быў на Полаччыне, глядзеў, як хораша рушыла насельніцтва правіць дарогі, рамантаваць масты спосабам народнай будоўлі.

Пра гэта Аляксандр Рыгоравіч паведамляў у пачатку наступнага года на сесіі ЦВК.

У словах чутна была добрая гордасць: вось як растуць нашы людзі! Самі дружна падымаюцца на працу, самі бяруць на сябе новыя абавязкі, каб толькі дапамагчы дзяржаве, якую адчулі яны па-сапраўднаму роднай.

Аляксандр Рыгоравіч падкрэсліваў: працаваць трэба сумленна. Так патрабавалі праграма і змест уласнага жыцця.

Сведкі яго падарожжа па Полаччыне могуць успомніць і пацвердзіць. Машыну даводзілася часта спыняць. Зглядзеўшы яе здалёк, упоперак дарогі кладіся дзядзькі і накрывалі галовы паперай, дзе былі спісаны ўсе мужыцкія крыўды.

І Чарвякоў кожны раз выходзіў сам, браў заяву, падымаў з зямлі чалавека, памагаў яму абтрэсці пыл і падвозіў да вёскі або да раёна. А дарогай лёгка і нязмушана пачынаў распытваць, і за нейкую гадзіну жыццё цэлага сельсавета рабілася ясным, заставалася запісаць найбольш важнае. Запісваў жа заўсёды, разважаўшы з тым, каго распытваў. Аловак у руках, смяяўся ён, не абяцае размовы па шчырасці.

Дасюль помніцца, як ён выглядаў: вялікі лоб, шорсткая, але нязлосная шчотачка вусоў, сіняя касаваротка і шараваты, паважнага веку пінжачок…

Аляксанд Рыгоравіч стаяў пры вытоках нашай маладой літаратуры. Але не толькі віншаваў поспехамі, а і перасцерагаў, папярэджваў. Канчаўся лістапад 1925 года. Уздымна і ўрачыста праходзіў І з'езд “Маладняка”, першай ў рэспубліцы літаратурнай арганізацыі. Не абышлося тут без фанфар, маладой самаўпэўненасці, якая загучна запэўнівала, быццам “Маладняк”, выпусціўшы дзесятак тоненькіх кніжачак, захапіў “камандныя вышыні ў літаратуры”.

Недзе пад канец работы з'езду за трыбуну стаў Аляксандр Рыгоравіч. Тады ўпершыню давялося яго бачыць і чуць. Сціпла, нібы засаромеўшыся шумных воплескаў, пачаў прамову. Стала дзіўна: рэвалюцыйны агітатар, чалавек, які падпісваў маніфест першага савецкага ўраду ў Беларусі, арганізоўваў Савецкую ўладу, узначальваў ваенна-рэвалюцыйны камітэт, а зараз стаіць на чале рэспублікі, гэты чалавек гаворыць так проста, без прамоўніцкага запалу, амаль ціха. Потым, калі слухаў, баючыся прапусціць хоць слова, зразумелася: у гэтай прастаце і ёсць найвялікшая сіла перакanання…

Міналі гады, пачалі забывацца словы, і іх дакладнасць аднаўляць па няпоўных, відаць сакратарскіх, а не стэнаграфічных запісах. А голас жыве ў памяці, глухаваты, як пад час вялікай зморы: здаецца, чуецца, як скупа і выразна вымаўляецца роднае слова.

Аляксандр Рыгоравіч шанаваў мову і казаў: ***“…Усё тое, што складае складаную псіхіку селяніна і рабочага, - усё гэта выражаецца імі на сваёй дамовай, размоўнай матчынай мове”.***

З заўсёднай рупнасцю ў сэрцы жыў гэты чалавек, каб ніводзін крок, ніякія захады таго ладу, які ён тварыў і прадстаўляў, не засталіся незразумелымі сярод людзей працы, якім было ахвяравана яго чыстае жыццё.

За любоў яму плацілі любоўю і не пакінулі яго труну адзінокай, калі ён нечакана і крыўдна выправіў сам сябе ў апошнюю дарогу.

***Максім Лужанін.***

# 150 гадоў “Ідыліі”

***150 гадоў з дня першай пастаноўкі (1852) у Менску оперы “Вясковая ідылія” (“Сялянка”) на лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча, музыку С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага.***

От дзівосы на калёсах! У горадзе афішы пра маючы адбыцца спектакль так і не былі расклеены. Яны адразу зрабіліся рарытэтнай каштоўнасцю. Чаму? Менскія ўлады дазволілі разыграць у гарадскім тэатры оперу “Сялянка” аматарскай трупе Вінцука Марцінкевіча, магчыма не заўважыўшы, што гэты твор выконваецца на беларускай мове. Але, на ёй, гарапашнай, што лічылася хамскай простанароднай гаваркой і ўсяляк гналася нат з паўсядзённага побыту тагачаснага Паўночна-Заходняга краю. Ды афішу саматугам разнеслі па горадзе, і прэм'ера адбылася. Рэжысёрам пастаноўкі быў сам паэт-драматург В. Дунін-Марцінкевіч, які да таго ж бліскуча іграў ролю войта Навума Прыгаворкі.



**Канверт, выдадзены “Белпоштай” да 150-годдзя першай беларускай оперы.**

Спектакль меў вялікі поспех. Масавыя сцэны, харавыя спевы, сольныя арыі і куплеты, балетныя нумары маляўніча адцянялі камедыйна-драматычныя прыгоды каларытных персанажаў п'есы. Мастацкае відовішча засведчыла нараджэнне нацыянальнага тэатра беларусаў у сярэдзіне XIX ст. Драматургічнае пяро В. Дуніна-Марцінкевіча і я… паэтычнае адчуванне прыроды сцэнічнай дзеі разам з музыкай С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага далі дзівосны плён – сапраўдны твор сапраўднага тэатральнага мастацтва.

Пасля лютаўскай прэм'еры “Сялянку” па загаду начальства адкрыта больш не выконвалі, а давалі спектаклі ў прыватных дамах, у клубных ды салонных залах у Слуцку, Бабруйску, Глуску і Менску.

Дзень прэм'еры “Сялянкі” – 9 лютага 1852 года – дата нараджэння і ўвасаблення ў жывую яву самой ідэі беларускага тэатра. Цікава, што пастаўлены амаль праз паўтараста гадоў спектакль “Ідылія” (паводле другой назвы гэтай п'есы) у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы ў наш час зноў пацвердзіў іскрамётную камедыйнасць і народны дух драматычнага твора, здавалася б, прызначанага некалі для аматарскай акцёрскай трупы.

***Барыс Бур'ян.***

# 75 гадоў Міхалу Дубянецкаму

*75 гадоў з дня нараджэння М.Ф. Дубянецкага (1927-1990), перакладчыка, публіцыста, кнігавыдаўца.*

Міхал Фёдаравіч Дубянецкі нарадзіўся ў в. Востраў Пінскага раёна Берасцейскай вобласці ў вялікай працавітай сялянскай сям'і. З дзяцінства вельмі любіў кнігі, збіраў іх і з захапленнем чытаў. Вучыўся ў гімназіі ў Познані, у Пінскай педнавучальні (завочна). У 1956 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу, пасля Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Настаўнічаў, быў намеснікам рэдактара ганцавіцкай газеты “Сялянская праўда”. З 1961 г. у Менску. Працаваў рэдактарам сацыяльна-палітычнай літаратуры ў выдавецтве “Беларусь”, з 1964 г. – загадчыкам рэдакцыі эканамічнай літаратуры, а з 1967 г. – галоўным рэдактарам выдавецтва “Ураджай”. У 1968-1975 гг. – інструктар сектара друку ЦК КПБ. Спрыяў выхаду ў свет серыі фальклёру “Беларуская народная творчасць”. З 1975 г. – намеснік галоўнага рэдактара, адказны сакратар БелСЭ. У 1979 – 1986 гг. ён дырэктар выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Добра ведаючы чыноўніцкую кухню партыйных органаў, Галоўліта, Дзяржкамвыда, насуперак партакратыі ён спрыяў выхаду твораў, якія або цяжка, або зусім не друкаваліся (напрыклад, “Слоўнік псеўданімаў” Я. Самалевіча, “Мёртвым не баліць” В. Быкава). Ён быў адным са стваральнікаў гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму “Мартыралог Беларусі”. Як публіцыст друкаваўся з 1959 г. Перакладаў з рускай, украінскай, польскай моў. На беларускую мову пераклаў “Жыві і помні” В.Распуціна, “Клімко” Г.Цюцюнніка, “Гэта дзіўнае жыццё” Д. Граніна, “Блакадную кнігу” А. Адамовіча і Д. Граніна, “Верную раку” С. Жаромскага, зборнік украінскіх апавяданняў “Сцежка без канца”. У 1998-1999 гг. апублікавана яго дакументальна-публіцыстычная аповесць “Злое вогнішча”.

***Я. Зычлівы.***

# Памяці Міхася Ткачова

## Вечарына ў Доме літаратара

11 сакавіка 2002 года ў Доме літаратара праводзілася вечарына, прысвечаная памяці выдатнага чалавека беларускай зямлі Міхася Ткачова. У гэтым годзе яму б споўнілася 60 год. Але лёс аказаўся несправядлівым да яго.

Ушанаваць памяць, успомніць жыццёвы шлях, творчую і палітычную працу Ткачова прыйшло шмат людзей, якія неабыякава ставяцца да будучыні Беларусі. Сярод іх былі Басалыга У., Белы А., Радзім Гарэцкі, Матусевіч М., Марачкін А., Петрашкевіч А., Содаль У., Шушкевіч С., Ялугін Э. і іншыя.

Пачалі і вялі вечарыну старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава і старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Алег Трусаў, якія задалі тон сустрэчы, акрэслілі ролю асобы Міхася Ткачова ў станаўленні беларускай гістарычнай навукі і дэмакратыі ў краіне. В. Іпатава адзначыла: "Гэта не проста чалавек – гэта паэт і прарок, духоўны правадыр, ён стукае ў сэрцы і розум народа...".

Менавіта Ткачову, калі ён быў яшчэ жывы, пасвячалі свае вершы Данута Бічэль-Загнетава, Сяргей Панізьнік, Ала Кажэра і іншыя паэты. Прагучаў верш А. Кажэры ў выкананні Людмілы Дзіцэвіч, пасля якога А.Трусаў уручыў кветкі жонцы Ткачова Валянціне Антонаўне, якая ўсё сваё жыццё была шчырым аднадумцам вялікага вучонага, чалавека, які так дбаў аб роднай зямельцы – гаротнай Беларусі.

Алег Трусаў чытаў верш, які ён назваў "народным", напісаны 6 гадоў таму, шчырай яскравай мовай, прысвечаны М.Ткачову і быў надрукаваны ў газеце "Культура".

Прысутныя змаглі паслухаць фанаграму мітынгу 1992 года, дзе прамаўляў М. Ткачоў, уздымаючы праблемы дзвюхмоўя, нацыянальнай годнасці і гонару беларусаў – пытанні, якія на жаль застаюцца актуальнымі і ў наш час.

Вельмі шчыра і цёпла сказаў пра Ткачова Станіслаў Шушкевіч. Ён гаварыў не як палітык, а як аднадумец і сябар, выказваючы надзею на тое, што пройдзе час, калі такія людзі, як Ткачоў, зоймуць пачэснае месца ў пантэоне Вялікіх Беларусаў.

Міхась Ткачоў заснаваў таксама "Таварыства мсціслаўцаў", займаўся археалогіяй часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, ён выдатны беларускі энцыклапедыст, а з 1988 года буйнейшы палітык, адзін з заснавальнікаў БНФ і Грамады.

Ён унікальны педагог, цудоўны выкладчык, прафесар. Разумеючы патрэбу ў сапраўднай гісторыі, пачаў пісаць падручнік для 5 класа.

М. Ткачоў запомніўся сваім гумарам, ён выратаваў шмат помнікаў гісторыі ад знішчэння ў Горадні і іншых гарадах.

Яго сябар, вядомы археолаг М. Чарняўскі, падкрэсліў: "...Выгадаваны мсціслаўскай зямлёй, Ткачоў быў адкрыты для беларускай ідэі".

Ён жа расказаў пра студэнцкія гады, пра сяброўства з Караткевічам, Улашчыкам, Кулікоm...

Сяргей Панізьнік чытае свой верш, прысвечаны М. Ткачову "Камяні".

Аляксей Марачкін раскрыў сэнс партрэтаў Караткевіча і Ткачова, якія маляваліся ім з натуры ў электрычцы. Не ведаючы на той час маладога Ткачова, але бачачы ў ім аднадумца, змагара за свабоду, робіць накід на паперу. А. Марачкін прачытаў свой верш "Прысвячэнне Мірону".

Прамаўляў на вечарыне і старшыня БНФ Вінцук Вячорка, а таксама знаўца палітычнай гісторыі XIX ст. Аляксей Кароль.

Цікавым момантам быў прагляд слайдаў, якія зрабіў і паказаў археолаг Лявон Калядзінскі, адзін з маладых сяброў М.Ткачова. гэта ў асноўным матэрыялы пра археалагічныя раскопкі, месцы, дзе бываў М.Ткачоў.

На заканчэнне вечарыны выступіў з вялікай праграмай спеўны гурт БДУ "Тутэйшая шляхта", кіраўнікамі якога з'яўляюцца Лявон Махнач, яго брат Анатоль Махнач, а таксама Віктар Аўраменка.

*Кацуба Мікалай, навучэнец МДРК №1.*

## "У цябе ўсё атрымліваецца..."

Мне няёмка было б сказаць, што мы сябравалі з Міхасём Ткачовым. Так, ён двойчы запрашаў мяне на паседжанні клуба "Пагоня" у Горадні, я здымала яго ў сваіх перадачах "Спадчына" (рэжысёр Галіна Краўчанка пасля ледзь не стагнала ад таго, што, стоячы побач з ім на замкавых мурах, я даставала яму хіба што да грудзей і ад таго здавалася яшчэ меншай).

Але калі ён быў запрошаны на працу ў БелСЭ (тады Беларускую савецкую энцыклапедыю), яму спатрэбілася менская прапіска. Без яе на працу не бралі. Міхась нястомна шукаў магчымасці прапісацца, але не знаходзіў яе. І аднойчы, калі мы сустрэліся каля Энцыклапедыі, ён сказаў, што, відаць, давядзецца яму ехаць назад у Горадню, бо тэрмін, прызначаны І. П. Шамякіным (які тады ўзначальваў БелСЭ), скончыцца праз тыдзень. Выглядаў ён быў досыць змучаны. Я ўзгадала, што ў нас ёсць "лішнія" метры (мы жылі тады ў пасёлку Сосны), і прапанавала яму дапамогу. Вядома, мне трэба было ўсё ж спачатку параіцца з мужам, і той, канешне, адразу адгукнуўся на гэтую прапанову. Міхась падабаўся ўсім.

Прапісваўся ён з цяжкасцю – іншагароднім чынілі ўсялякія перашкоды. У мяне захавалася запіска, дзе ён піша, што над ім "спачатку люта паздзекваліся, пасля дазволілі прапіску як вялікую ласку". Быў, вядома ж, надта ўдзячны, час ад часу тэлефанаваў нам і расказваў пра свае прыгоды на прыватнай кватэры, якую здымаў недалёка ад месца працы. Тады ён дні і ночы шчыраваў над Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі.

Неўзабаве ён атрымаў кватэру. Выпісваўся ад нас і запрашаў на наваселле. Але не паспеў яго справіць. Паспеў толькі напісаць прадмову да оперы "Князь Наваградскі", да якой я рабіла лібрэта. Сказаў, перадаючы: "Шчыруй, Вольга! У цябе ўсё атрымліваецца".

Пра ягоную смерць мы даведаліся, вярнуўшыся з падарожжа Мір-Пружаны, і я тады ж занатавала кароткія радкі:

***Прыляцелі ў Беларусь сумныя Дзяды,***
*І яго з сабою ўзялі тады.*
***Лістапад, нібы з торбаю жабрак,***
***Падабраў лісты жоўтыя так-сяк.***
***Заплыло тугой у машыны шкло –***
***Нас з табою там, побач, не было...***

Мне і дасюль здаецца, што ён жывы. Што вось так, як на гэтай фатакартцы ў Вільні, дзе мы былі на Скарынаўскіх святах у 1990-м годзе, на кватэры Аляксея Аніщчыка, які сфатаграфаваў нас траіх, ён зноў абдыме за плечы, скажа нейкія добрыя словы ці то пра мае тэлевізійныя перадачы, ці то пра новыя гістарычныя творы, якія я пісала ўжо без ягонай пільнай увагі, але з ягонымі пошукамі і знаходкамі, з ягонай Гістарычнай Энцыклапедыяй...

*Вольга Іпатава.*

*Сяргей Панізьнік*

### Камяні

*Міхасю Ткачову, даследчыку замкаў.*

А была тут сцяна:
вежы помніць яна...
Рэха бітваў гудзела над пушчамі.
Ты шлях памяні:
адны камяні,
ляжаць камяні невідушчыя.

Разапрэлі муры.
Ад нядаўняй пары
ля падмуркаў свіціліся друзгалкі.
Ты шлях памяні:
маўчаць камяні
і замкі твае беларускія.

Але рэха крані –
І жытло цішыні
абачнецца з вякамі гудучымі.
Ты шлях памяні:
завуць камяні,
крычаць камяні па-над кручамі.

Зноў паўстане сцяна.
Не стаптала вайна
нашы мары, задумы вялікія.
Ты шлях памяні!
Мо й мы камяні?
І мы камяні – свет-
ла-
лікія.




Каляндарык, выпушчаны Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны да 60-х угодкаў з дня народзінаў Міхася Ткачова

## Выпадковая сустрэча

Быў вельмі прыгожы дзень. Ідучы ў цэнтры мястэчка, заўважыў, што насустрач мне павольна, крышачку апусціўшы галаву, ідзе рослы, магутны чалавек. Наблізіўшыся да мяне, ён запытаўся, дзе што знаходзіцца ў пасёлку. За час кароткага дыялогу паспеў заўважыць, што адзеты ён быў у цёмнае і вельмі проста. Нічога не нагадвала пра яго асобу. Першае, што мяне моцна ўразіла, - гэта тое, што пачуў цікую прыгожую беларускую мову. На той час гэта для мяне было нечакана. Твар у мяне гарэў, бо было вельмі сорамна, што нават на простыя пытанні не даў рады адказаць на роднай мове. Далей нават і не ведаў, як сябе паводзіць. Твар незнаёмца запрашаў да спакою, і гэта мне дало нейкую палёгку. Мы працягнулі нашую размову. Распытаў пра пасёлак, а я нешта ў мяшанцы яму стараўся распавесці. Пакрысе ён пачаў далей мяне "раскручваць", і ў рэшце мы выйшлі за межы Воранава.

Дзесьці ў пачатку размовы ён ціха назваўся Міхасём Ткачовым. Я адказаў, і мы пазнаёміліся. З далейшай размовы я пакрысе пачаў уяўляць, з кім маю справу, што ён ад часу дабаўляла фарбы на твар. Тады, на жаль, я пра яго нічога і не ведаў. Стараўся больш маўчаць і ўважліва слухаць вельмі цікавага чалавека. Ён распавёў, што будзе ў РДК чытаць лекцыі і мае вольны час.

На што я яму прапанаваў пад'ехаць у мястэчка Больценікі Воранаўскага раёна. На твары майго суразмоўцы з'явілася вельмі прыемная ўсмешка, і з ноткай ахвотай ён пагадзіўся на прапанову. Для майго аранжава-чырвонага чэшскага "каня" гэта было, мабыць, першае сур'ёзнае тэхнічнае выпрабаванне. Шчыра прызнаюся, баяўся не згубіць свайго спадарожніка, бо ён амаль што ўдвая перавышаў мяне ў масе. І вось мы ў дарозе. Мой пасажыр вельмі ўмела паводзіў сябе як напарнік на маім "кані", што знoўку прыемна здзівіла, і маё хваляванне пачало прападаць. Па асфальце праехаліся нават з вецярком. Далей па гравейцы ехалі ціха, каб даць майму спадарожніку магчымасць палюбавацца мясцовымі краявідамі. Дахаўшы да Путткамераўскай сядзібы, мы сутыкнуліся з многім цікавым і новым. Прыехалі. Міхась падзякаваў за мяккую дастаўку, твар яго быў прыемна задаволены. Такія абставіны яшчэ больш наблізілі мяне да майго спадарожніка. Заўважыў, што выпадкова знаёмы ператварыўся ў вельмі жывога і энергічнага маладога чалавека. Усё гэта мяне яшчэ і яшчэ больш уражвала.

Такога выпадку ў маім жыцці яшчэ не было. Ціха, не перашкаджаючы ішоў за сваім важаком. Я адчуваў сябе вельмі шчаслівым, што сёння мяне Бог далучыў да сапраўднага сябра і чалавека. Абышлі ўсё, што нас цікавіла. На жаль, тое што мы ўбачылі было далёка не такім, што бачылі вочы Марылі Верашчакі.

Скрыгатанне харавых гукаў чорнага варання ў старажытным парку, параўнальна нагадвалі пра вынікі працы часовых пастаяльцаў-стваральнікаў камуна-калгаснай сістэмы. Рух майго спадарожніка паскараўся. Прыемна было бачыць неабыякавага наведвальніка цікавай мясціны, гаспадара і дарадцу.

А ўва мне нарастаў сорам за "халяўшчыкаў-кіраўнікоў" якія пакралі ўсё і давялі забудову і парк да страшэннага становішча. Аб гэтым не распавесці на паперы. Потым мой спадарожнік шмат увагі ўдзяляў захаванню помніка і вяртанню дэталяў упрыгожвання і матэрыялаў скрадзеных мясцовымі жыхарамі.

Было вельмі прыемна бачыць разумнага, пільнага, сапраўднага абаронцу культурнай часткі гісторыі нашага народа. Вечарэла. Ехалі назад павольна і моўчкі... Наведалі пахаванне Марылі і яе дачкі каля Беняконьскага касцёла.

Пачуцці ўсплывалі адно за адным і ткалі своеасаблівы дыван таго дня.

Вярнуўшыся, падзякавалі адзін аднаму і разышліся. Прайшло, напэўна, шмат часу, а можа і не. Але гэты выпадак і сустрэча сталі для мяне платформай для далейшых уласных паводзінаў у патрэбным кірунку.

Пазней я даведаўся больш падрабязна, з кім меў справу, але ж той выпадак быў вельмі павучальным, як павінен жыць чалавек на нашай зямлі і як сябе паводзіць. Шкадую, што не папрасіўся на лекцыі і не сустракаў больш свайго спадарожніка. Цяпер выдатна разумею, хто павінен быць бацькам для нашчадкаў у шырокім сэнсе.

Нажаль, яго ўжо няма...

Крыўдна, што ў нас, на роднай зямлі, у заняпадзе і архітэктура, і людзі, і ўзаемаадносіны.

Лепшыя людзі, на жаль, ці знікаюць, ці без пары паміраюць.

Семнаццаць гадоў таму адбылася мая сустрэча з выдатным гісторыкам і навукоўцам Міхасём Ткачовым, гэта час амаль пакалення, з'яўленне новага чалавека, якому хачу пажадаць быць больш пільным і абачлівым. Берагчы Бацькаўшчыну павінен кожны, толькі так мы станем гаспадарамі і перамагаем.

*Казімір Місюра, м. Воранава.*

Алесь Петрашкевіч

# Час усё адкрые...

***Шаноўныя чытачы "Нашага слова". Нягледзечы на цяжкі фінансавы стан газеты, мы пачынаем друк цыклу гістарычных п'есаў Алеся Петрашкевіча: "Час усё адкрые" (часы Януша Радзівіла), "Развітанне з Радзімай" (часы падзелаў Рэчы Паспалітай), "Рыцар свабоды" (часы Кастуся Каліноўскага), "Апошні збройны чын" (часы Слуцкага збройнага чыну). Прапанаваныя аўтарам п'есы даюцца пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук А. П. Грыцкевіча.***

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

**Дзейныя асобы:**

**Януш Радзівіл** — князь, гетман найвышэйшы Вялікага княства Літоўскага.

**Багуслаў Радзівіл** — князь, брат Януша.

**Юры Тышкевіч** — біскуп віленскі.

**Ян Казімір** — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы.

**Мікалай Патоцкі** — каронны гетман Рэчы Паспалітай.

**Вінцэнт Гансеўскі** — гетман польны Рэчы Паспалітай.

**Аляксей Міхайлавіч** — цар усяе Русі.

**Нікан** — патрыярх усяе Русі.

**Пётр Шарамеццеў** — ваявода маскоўскі.

**Рыгорка** — пасланец цара Аляксея Міхайлавіча.

**Багдан Хмяльніцкі** — гетман запарожскага казацтва.

**Магнус Дэлагардзі** — пасол караля Швецыі Карла X Густава.

### Дзея першая

#### I

*Царская палата. На троне вялікі гасудар усяе Русі Аляксей Міхайлавіч. Ён у безмяцежным настроі разглядае сябе ў люстэрка, прычэсвае валасы, рудкаватую бараду, і так і гэтак прымервае шапку Манамаха. Уваходзіць ваявода Пётр Шарамеццеў, нізка схіляецца перад царом.*

**Аляксей Міхайлавіч** *(незадаволена)*. Я цябе не клікаў, ваявода Шарамеццеў.

**Шарамеццеў.** Шпег-выведнік па мянушцы Рыгорка, вялікі гасудар, вярнуўся з Вялікага княства. Пабыў і ў Польшчы...

**Аляксей Міхайлавіч.** А то ты не ведаеш, што я менавіта Рыгорку і чакаю... даўно!

**Шарамеццеў.** Разумею, вялікі гасудар, і клічу. *(Выходзіць і вяртаецца з Рыгоркам. Той каля парога падае на калені і паўзе да цара).*

**Аляксей Міхайлавіч.** Устань і расказвай! А ты, ваявода, сядзь, пакуль я ў добрым настроі духу.

*Шарамеццеў баязліва прысаджваецца на ўскраек лаўкі.*

**Рыгорка** *(устаўшы з падлогі)*. Вялікі гасудар...

**Аляксей Міхайлавіч.** Без цябе ведаю, што я гасудар і не малы. Да справы! Бо цябе толькі па смерць пасылаць.

**Рыгорка.** Вінаваты, ваша вялікасць! Але ж на вясну гэтага, 1649 года, збіраўся запарожскі гетман Багдан Хмяльніцкі пасласць на Вялікае княства 40 тысяч казакаў ды 20 тысяч татараў. Але нечакана вымушаны быў паспешліва пасласць пад Лоеў насустрач гетману Янушу Радзівілу свайго палкоўніка Міхайлу Крычэўскага з загонам у 30 тысяч шабель. Верхавода ліцвінаў Радзівіл не толькі ўшчэнт разбіў арду Крычэўскага, але і паланіў самога атамана, які паміраў ад ранаў... Між іншым ў гэты самы час польскія харугвы пад зверхнасцю гетмана Гансеўскага на Прыпяці перабілі больш за 1600 казакоў і дабілі параненага атамана Галоту.

**Шарамеццеў**. Такім чынам, ваша вялікасць, княства ацалела ад чарговага налёту казакоў і гультайства з Украіны. Але цікава, што на Кіеў, як таго патрабаваў кароль Ян Казімір, Януш Радзівіл не пайшоў.

**Аляксей Міхайлавіч.** Як жа так?! Не пайшоў...

**Шарамеццеў.** Гэты радавіты князь з Вялікага княства не першы раз ухіліўся ад удзелу ў агульнай з Польшчай кампаніі супраць Украіны і ў прыватнасці, як не дзіва, супраць Багдана Хмяльніцкага. Сваё ж Княства ад яго бароніць і пры выпадках казакоў б'е даволі моцна.

**Аляксей Міхайлавіч.** Памаўчым, ваявода, паслухаем пакуль Рыгорку. Ён больш за нас бачыў.

**Рыгорка.** Вялікі гасудар, Радзівіл не толькі ціха ігнаруе караля. Ён яшчэ мае гонар над ім пасміхацца, як рыцар над баязліўцам і нікчэмнасцю ў вайсковай справе. Ён не толькі дэманстратыўна ўхіліўся ад паходу на безабаронны Кіеў, але і не падтрымаў польскае войска, якое пад Зборавым разам з каралём Янам Казімірам акружылі казакі. Хадзілі чуткі, нібыта Радзівіл не баючыся сказаў: "Ратаваць карону крывёю ліцвінаў? — навошта!" А палякі бясслаўна цярпелі адно паражэнне за другім. Павер майму слову, вялікі гасудар, на свае вочы бачыў, як шляхта і паны палахліва хаваліся ў абозе. Сам кароль выганяў іх на бой. Пахолкі, прыслуга шляхты і чэлядзь біліся за шляхту, бароначы караля. Палова войска ўвогуле не з'явілася на бітву. Жаўнеры лазілі па сёлах і маёнтках ды рабавалі іх. I пра тое цяпер ў Княстве і Каралеўстве смех вялікі, што ляхі хаваліся пад вазы, а біцца не хацелі: і рысяў і сабалёў сваіх мянялі на сярмягі, а пры гэтым і шляхецтва на халопства, абы ўратавацца ад казакаў. А каралеўскія красамоўнікі распісалі слаўны паход, пераможны поспех і нібыта вельмі выгоднае перамір'е з ворагамі найсвятлейшага і наймагутнейшага караля і вялікага князя Яна Казіміра, каб неяк зменшыць ягоную ганьбу. А паэт Самуіл Твардоўскі ў піку каралю апявае "вялікага Радзівіла", а той на сойме у Варшаве з гонарам кідае пад ногі караля 50 казацкіх харугваў, узятых ім пад Лоевам. I кароль вымушаны не толькі прадыхаць выхадку Радзівіла, але яшчэ і аддаць яму у дзедзічнае валоданне Невель, Себеж і Краснае, абы толькі той адмовіўся ад намераў адасобіць Княства ад Кароны.

**Аляксей Міхайлавіч.** А каму пра тыя намеры вядома?

**Рыгорка.** Шпегі мае выведалі, што пасля сойму, там жа ў Варшаве, Радзівіл таемна сустрэўся з пасламі Валахскага гаспадара Ракашы і пацвердзіў сваё ранейшае слова быць з ім, а не з Каралеўствам. А калі той нападзе на палякаў, то ён, гетман Радзівіл, маючы падрыхтаванае войска, учыніць так, як пойдзе справа. I наказаў Ракашы заключыць дамову з Хмяльніцкім, каб той не чапаў Княства, а дзейнічаў супраць Польшчы з ім разам.

**Шарамеццеў.** Такая вось, вялікі гасудар, тройца — Радзівіл — Хмяльніцкі — Ракашы.

*Цар аж устае з трона ад такога нечаканага і прыемнага паведамлення свайго выведніка.*

**Аляксей Міхайлавіч.** Вось за гэту навіну, Рыгорка, я цябе азалачу!.. I адкуль толькі такая зацятасць у гетмана Радзівіла з каралём?..

**Рыгорка** *(вінавата)*. Няхай мне даруе ваша вялікасць — але да чаго Рыгорка яшчэ не дапяў, да таго не дапяў.

**Шарамеццеў.** Я думаю, вялікі гасудар, што зацятасць сама па сабе справа даўняя, а яшчэ больш абвастрылася з таго часу, як кароль даведаўся пра сёлетняю вясновую сустрэчу ў Слуцку Януша Радзівіла з пасламі Багдана Хмяльніцкага. Не так жа яны тры дні банкетавалі ў маёнтку князя, які адарыў іх многімі падарункамі і з гонарам праводзіў. Баіцца кароль і даўніх стасункаў Януша Радзівіла з Юрыем Ракашы. Не давяраюць князю і паны-рада, не кажучы ўжо пра сойм польскі. Яшчэ ў 1635 годзе Януш Радзівіл з грубай праматой папярэдзіў Польшчу: "Прыйдзе той час, калі палякі да дзвярэй не патрапяць, праз вокны іх будзем выкідаць". У гэтых словах выказаў ён не толькі свае пачуцці. Даўно не церпяць у Вялікім княстве ляхаў за іх пыху ды хітрыкі. Тая нахабнасць, з якой "браты-палякі" запраўляюць у Чужым доме, мякка кажучы, назапасіла ў родзе магнатаў Радзівілаў непрыязнь моцную. А гаспадары ў Вялікім княстве не хто-небудзь, а Радзівілы... Так яны самі лічаць.

**Аляксей Міхайлавіч.** Адпускаю цябе, Рыгорка, з Богам, хоць пазбавіў ты мяне сну і надоўга.

*Кланяючыся, Рыгорка спіною адступае да дзвярэй і выходзіць з царскай палаты.*

Падалося мне, ваявода, што самы час настаў пакарыстацца каралеўска-панскай варажнечай і недаверам Яна Казіміра да Радзівіла ды прылашчыць "казацкага бацьку" Багдана, пакуль той пакутуе, выбіраючы, каму больш выгадна прадаць сябе і Айчыну сваю — зямлю украінную: цару маскоўскаму ці каралю польскаму, князю сяміградскаму ці султану турэцкаму, гетману вялікакняскаму ці шведскай каралеве.

**Шарамеццеў.** Разумею, ваша вялікасць. Час сапраўды спрыяльны.

**Аляксей Міхайлавіч.** Не так даўно біў мне чалом Багдан Хмяльніцкі і дужа прасіў дазволіць яму правесці свае загоны праз Бранскую зямлю, абысці з усходу Вялікае княства, каб напасці знянацку на Полаччыну і Падняпроўе і учыніць Янушу Радзівілу сапраўдную пастку, пакуль той бароніць ад казацкіх набегаў Гомельшчыну ды Магілёўшчыну. Перадай прайдзісвету, што я не пярэчу. Няхай сабе сходзіць і на Полаччыну, і на Падняпроўе.

*Шарамеццеў схіляе галаву.*
*Сцэна зацямняецца.*

*Пад вузкім навесам-паветкай каля сцяны белай хаты-мазанкі даволі багаты стол з выпіўкай і закуссю. З двух бакоў стала — лаўкі. У святочнай гетманскай вопратцы, пры зброі Януш Радзівіл ходзіць уздоўж паветкі, а Мікалай Патоцкі сядзіць на ўскарайку лаўкі спіною да стала. Церпіць тое, што выгаворвае яму Януш Радзівіл.*

**Радзівіл** *(пытаецца і ў сябе, і ў Патоцкага)*. Што яшчэ трэба было для поўнай і канечнай перамогі над казацкай ардой, хоць мне яны дорага заплацілі сваімі галовамі за апошні набег і на Полаччыну, і Падняпроўе. Які быў момант — у бітве пад Берасцечкам хан Іслам-Гірэй здрадзіў Хмяльніцкаму, і той сядзеў у яго палоне, чакаючы выкупу! Пазбавіўшыся гетмана, казакі збеглі з свайго лагера. Ну, пасеклі каралеўскія жаўнеры тых, каго дагналі, частку ў рацэ патапілі. Ну і што з таго? Хто можа мовіць, што ты, гетман каронны, з каралём разам перамаглі непрыяцеля?..

**Патоцкі.** Калі шчыра, Януш, сам бог яго ахінуў...

**Радзівіл.** А яснавяльможны палічыў гэта вялікай перамогай і трывумфатарам з'ехаў у Варшаву! А цябе, між іншым, з 18 тысячамі паслаў узяць усю Украіну. Стратэг — што тут скажаш!

**Патоцкі.** Я маўчу, Януш, бо мяне паслаў кароль.

**Радзівіл.** Паслаў кароль!.. А ўзялі што? Адны Трылісы! Выразалі дзве тысячы месцічаў — напіліся нявіннай крыві. А толку?!

**Патоцкі.** Войска маё патрабавала роспуску па дамах. Было не баяздольнае. Пры першым націску казакоў кінула тыя Трылісы, што цэлы полк не спыніў уцекачоў на пераправе цераз Стыр.

**Радзівіл.** I ў гэтых умовах ты пайшоў на перамовы з Хмяльніцкім, якога казакі выкупілі ў Іслам-Гірэя?..

**Патоцкі.** А што было рабіць?..

**Радзівіл.** Даруй, калега, за папрокі. Я сказаў бы ўсё гэта каралю, але ж ён збег! Збег ад перамогі над сваім і маім ворагам! I не ў цябе і караля у закладніках аказаўся Багдан Хмяльніцкі, а гетман Гансеўскі — ў казакаў Хмяльніцкага. Непрыяцель мой Гансеўскі, якога ты накіраваў пасломперамоўшчыкам да Багдана, і даў мне вестку пра сваю бяду. Астатняе табе вядома: паспяшаўся я з 130 харугвамі на выручку каралеўскага ўлюбёнца, а затым і Кіеў прыхапіў. Дарэчы, без цябе, каронны гетман.

**Патоцкі.** З чым я цябе і віншую, гетман вялікакняскі.

**Радзівіл.** За віншаванне — дзякуй, але да гэтага зразумець не магу, а хацеў бы... Ну злучылі мы з табой свае войскі пад Белай Царквой. Уішхталіся, каб разам, зброяй, прывесці агульнага нашага ворага да пакорлівасці. Я са сваімі рынуўся ў сечу. А ты сваім харугвам не даваў загаду. I я застаўся адзін на адзін і з казакамі, і з татарамі. Казакаў загнаў у балота ды сам у пастку трапіў. Тут бы табе і ўдарыць!.. Але ж... Але ж не хочацца, балюча гаварыць, што князь Патоцкі, якога я лічыў рыцарам, мне ні то здрадзіў, ні то нечага збаяўся...

**Патоцкі** *(пасля доўгай паўзы)*. Даруй, Януш... Рыцарству мне варта ў цябе вучыцца. Мякка кажучы, пасля паразы пад Корсунем змаладушнічаў і загад караля выканаў: Янушу Радзівілу не дапамагаць, а з Хмяльніцкім імкнуцца толькі да перамоваў.

**Радзівіл.** За шчырасць дзякуй, князь. Яна дапаможа мне вызначыцца ў далейшых стасунках з каралём. I дужа не хочацца мне ваяваць з табою, Мікола.

**Патоцкі** *(і з апраўданнем, і з радасцю)*. I ўсё ж "казацкі бацька" прыпаўзе да нас, каб падпісаць капітуляцыю і прысягу. I перамовы з ім...

**Радзівіл** *(перапыняе)*. Перамовы, перамовы... А перамога, якая магла вырашыць лёс усёй вайны, прадухіліць новае кровапраліцце, ўпушчана. Упушчана бяздарна, а з боку караля, бы наўмысна. I ці прыедзе яшчэ Багдан на перамовы, якіх мы з табою ўжо прачакаліся. Так што, Бог вам суддзя — і табе, і каралю. А на мяне не крыўдуй — такія мы ўжо Радзівілы. Іншы мог бы і змоўчаць.

**Патоцкі** *(павесялеўшы, размінае косці, робіць некалькі глыткоў з кубка)*. Між іншым, хацеў бы Патоцкі ведаць, што напісаў у сваім лісце Хмяльніцкі, які яго пасол Сцяпан Пабадайла ўчора перадаў Радзівілу...

**Радзівіл.** Казацкі верхавода паведаміў Радзівілу, што нібыта казакі заўжды былі ў добрых адносінах да Вялікага княства.

**Патоцкі.** Псякрэў!..

**Радзівіл.** ...і прасіў не весці на Украіну ліцвінаў, а ён загадае казакам пакінуць Вялікае княства ў спакоі.

**Патоцкі.** I што на гэта адказаў Радзівіл?

Радзівіл. Калі ўжо Патоцкі прызнаў рыцарства Радзівіла, то і той адказаў па рыцарску: Вялікае княства і Каралеўства складаюць Рэч Паспалітую двух народаў. I нельга біць аднаго, каб з другім не мець дачынення.

*Патоцкі па-сяброўску абдымае Радзівіл. Чуваць шум галасоў, іржанне коней.*

**Патоцкі** *(павярнуўшыся на шум)*. I ўсё ж ён прыехў!.. Прысягаць...

*( Працяг у наступных нумарах.)*



# Пілігрымка ў Росіцу

Група вучняў віленскай беларускай школы імя Фр. Скарыны начале з дырэктарам сп. Т. Сівалавай пабывалі ў пілігрымцы ў Росіцы па запрашэнні айцоў марыянаў. Нягледзячы на тое, што і дарога наблізкая і люты месяц, жадаючых было. Адправіліся на Віцебшчыну на двухпавярховым аўтобусе. Нас усюды цёпла сустракалі. У першы дзень мы наведалі Полацк, Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, у Сафійскім саборы слухалі арганную музыку ў выкананні Ксеніі Пагарэлай. Сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі гімназіі № 4 Полацка, вучні выступілі з канцэртам, дамовіліся аб далейшым супрацоўніцтве, пазнаёміліся з рэдактарам часопіса "Калосьсе" Алесем Аркушам. Начавалі мы ў вёсцы Друя, тут нас чакалі вернікі, якія разабралі нас па хатах. Вёска размешчана на высокім беразе Заходняй Дзвіны, нават зімой прыгожыя краявіды, калі амаль зышоў снег. Раніцай разам з намі паехалі яшчэ два аўтобусы з мясцовымі вернікамі ў Росіцу, па дарозе далучыліся з Міёраў. У 12 гадзін у касцёле ў Росіцы адбылася імша, потым усе рушылі працэсіяй на тое месца, дзе 18 лютага 1943 года адбылася трагедыя. Разам з жыхарамі вёскі карнікі спалілі святароў марыянаў, - айца Антонія Ляшчэвіча і айца Юрыя Кашыру. Яны засталіся разам з сваімі духоўнымі "дзецьмі". 13 чэрвеня 1999 года ў Варшаве Ян Павел II іх узвялічыў да хвалы алтара. На гэта святое месца едуць паломнікі з розных куткоў Беларусі і з-за мяжы, як вучні, настаўнікі і бацькі нашай школы. Ехалі не толькі, каб памаліцца і прыняць удзел ва ўрачыстасцях, пакланіцца святой зямлі, думкамі апынуцца ў тым страшным дні, перажыць. Такое не павінна паўтарацца. Мы ведаем і цяпер і будзем помніць пакутнікаў айцоў Юрыя і Антонія.

Пілігрымка здзейснілася дзякуючы нашым спонсарам "Літполіаўта" Міхасю Руневічу, Азаркевіч, "кіраўніку "Сябрыны" Раману Вайніцкаму. Арганізавалі – сястра-эўхарыстка сп. Наталля і настаўніца В. Кавальчук. Запрасіў пробашч Росіцкай парафіі Бярнацкі Пётр.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

**II Узвышанскія чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Язэпа Пушчы 27 траўня 2002 г.**

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі паведамляюць аб правядзенні 27 траўня 2002 года II Узвышанскіх Чытанняў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Я. Пушчы.

Прапануецца тэма: "Узвышша" і Язэп Пушча".

Чытанні будуць праходзіць у памяшканні Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Выданне зборніка матэрыялаў прадугледжваецца пасля завяршэння Чытанняў.

Рэдакцыйная рада пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для выдання.

Форма заяўкі: прозвішча, імя, імя па бацьку; месца працы, пасада, вучоная ступень, званне; назва даклада, выступлення; службовы і хатні тэлефон і адрас.

Заяўкі на ўдзел у Чытаннях просім накіроўваць да 30 красавіка 2002 года на адрас:

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

220030, г. Менск, вул. Кірылы і Мяфодзія, 4.
Тэл. 227 47 81

# Наша ініцыятыва

ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю за 10 год свайго існавання (1992-2002 гг.) зрабіла і робіць шмат карысных спраў на ніве нашага нацыянальнага Адраджэння.

Вось і цяпер у год 10-годдзя ТБМ наша Рада выступіла з новай рэальнай ініцыятывай: у Вільні, пры касцёле св. Барталамея ў Парафіяльным Доме (цяпер гэтыя памяшканні рамантуюцца за кошт віленскай курыі) адкрыць Галярэю партрэтаў беларускіх каталіцкіх і ўніяцкіх светароў з перспектывай адкрыцця там адпаведнага музея.

Дарэчы, праца ў гэтым кірунку ўжо вядзецца, праводзіцца збор матэрыялаў, але патрэбна на гэтым засяродзіць увагу беларускай грамадскасці, каб мець неабходную падтрымку.

Гэты праект можна і патрэбна ажыццявіць. Праўда, могуць быць і некаторыя складанасці, але, трэба думаць, што каталіцкая курыя г. Вільні нас падтрымае.

Паколькі ў аснове ўсялякай культуры ляжыць рэлігія, то ў гэтым выпадку Беларускі Каталіцкі Касцёл св. Барталамея ў Вільні павінен стаць цэнтрам беларускасці Віленскага Краю.

Тыя высілкі, якія праводзяцца на ніве беларушчыны цяпер ніякім чынам не супярэчаць гэтаму праекту.

Хацелася б каб на старонках газеты "Наша слова" былі выказаны думкі накont нашай ініцыятывы.

Чакаем ад чытачоў газеты сваіх прапаноў, заўваг па гэтым пытанні.

*Юры Гіль.*

# 60 гадоў Міхасю Дрынеўскаму

Міхаіл Паўлавіч Дрынеўскі нарадзіўся ў спеўнай вёсцы Тонеж Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Беларускую кансерваторыю. З 1968 г. хормайстар, з 1975 г. мастацкі кіраўнік – галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча. З 1968 г. ён выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі. Хто слухаў яго хор, адчуваў глыбокае прафесійнае веданне дырыжорам беларускага музычнага фальклёру. Калі слухаеш яго канцэрты, здаецца, што па спіне ажно, як электрычнасць, прабягаюць дрыжыкі захаплення, хваляючыя іскры суперажывання той народнай песні, якая гучыць душэўна, голасна і раздольна. М. Дрынеўскі запісаў шматлікія народныя мелодыі, апрацаваў іх для народнага хору. ("Ой ты, грушка мая", "Вол бушуе, вясну чуе", "Як пайду я дарогаю", "Ночы мае, ночушкі", "Ой, у полі гумяночак", "Пшанічанька яра", "Чырвоная калінaчка" і інш.). Хто чуў, як спявае ў кампаніі сам Міхась Дрынеўскі, не мог не захапляцца яго цудоўным Божым дарам, уменнем перадаць у народнай песні ўсе яе разнастайныя нюансы, чароўнасць і прыгажосць. Беларускую народную песню ён ведае, як ніхто, адчувае тонка, глыбока. Дрынеўскі шмат працаваў з самадзейнымі харавымі калектывамі акадэмічнага плану. За вялікі ўклад у харавое мастацтва рэспублікі ён атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

*Я. Спявак.*

# СВЯТА ТВОРЧАСЦІ

Клуб цікавых сустрэч арганізаваў свята творчасці, якое адбылося ў раённым Доме культуры. Свята адкрыў народны фальклёрны ансамбль "Сенькавіца". Душой калектыву, яго мастацкім кіраўніком з'яўляецца Франя Сяргееўна Русак. На свята творчасці прыехалі народныя ўмельцы з усяго раёна. Не знікае ў нашага народа любоў да прыгожага. Вядоўца свята Н. Глацёнак пазнаёміла ўсіх прысутных з майстрамі, якія ўдзельнічалі ў гэтым свяце.

Цікавыя вырабы саломапляцення былі паказаны Жанай Протас, Марыяй Балай, Леанідам Федацёнкам, Валянцінай Шумскай. Наведвальнікі выставы былі захоплены вырабамі вядомай у нашым раёне майстрыцы, настаўніцы Бігосаўскай школы Галіны Тушкінай, якая ў сваёй працы скарыстоўвае розныя матэрыялы: саломку, скуру, палатно. Нельга было не залюбавацца творчасцю майстроў-разьбяроў па дрэву, іх багатай фантазіяй. Гэта работы Анатоля Смаленкіна, Мікалая Гарбуза, Леаніда Федацёнка. Адметнае майстэрства выявілася ў вырабах ткачыхі Ірыны Шлык, Аляксандры Бурэц, Рэгіны Лапкоўскай, якія парадавалі цудоўнымі вязанымі рэчамі. Кавальская справа патрабуе майстэрства, ведання сакрэтаў апрацоўкі матэрыялаў. І гэтым спаўна валодае Сяргей Гендзік, з рук якога выходзяць цудоўныя работы з жалеза.

Жывапіс быў выстаўлены Анжэлай Даргель і Аляксандрам Мядзютам, вырабы лазапляцення – Мікалаем Быкавым і Надзеяй Быкавай.

Удзел у свяце творчасці брала і Таіса Спірыдзёнак – жанчына, якая даўно займаецца вырошчваннем лекавых раслін і гатуе з іх гарбату.

Наведвальнікі выставы народных майстроў маглі не толькі любавацца іхнімі творамі, але і набыць упадабанае па даволі танных коштах.

А што да творчых песенных калектываў, то, безумоўна, "Сенькавіца" стала цудоўнай аздобай першага свята такога кшталту. Самабытныя танцы, запісаныя са слоў старажыхароў Сенькаўшчыны, вольныя мілагучныя народныя песні лашчылі вуха. Захапляла харaство народных строяў.

Не саступалі "Сенькавіцы" і сябры клуба "Ветэран", якія прапанавалі слухачам сваю праграму. Дух народнасці вітаў тут і блаславіў свята на доўгае жыццё. Бо як абыякава абмінуць рукатворныя рэчы альбо не прытупнуць у такт жыццярадаснай мелодыі? Гэта – спрадвечнае, шчырае, як само жыццё.

А потым – зацікаўленая гутарка за кубкам гарбаты у "Клубе цікавых сустрэч", дзе ішла гаворка аб жыцці майстроў, іх творчых справах.

Арганізатары свята, а гэта кіраўнік "Клуба цікавых сустрэч" Людміла Гагалінская, яго сябры, прыхільнікі ідэі – Валянціна Шумская, дырэктар раённага дома рамёстваў, кіраўнік Дома культуры Віктар Хадорчанка і супрацоўніца гэтай культустановы Анжэла Макеенак – шчыра падзякавалі ўсіх яго ўдзельнікаў, якія, у сваю чаргу, такія ж словы выказалі на іх адрас. Менавіта сумесная праца прынесла такі плён. Мяркуецца, што гэтым пакладзены пачатак творчым сустрэчам народных майстроў Верхнядзвіншчыны.

*Ул. кар.*



В. Шумская і А. Даргель – супрацоўніцы Дома рамёстваў.

# "Пакліканыя" ў БДУК

6 сакавіка ў БДУ культуры адбылася прэзентацыя кнігі дацэнта кафедры беларускай мовы і літаратуры Лідзіі Сымонаўны Савік "Пакліканыя".

Распачала сустрэчу вядоўца – Людміла Дзіцэвіч. Яна расказала крышку пра гісторыю кафедры беларускай мовы і літаратуры, якая ў 1992 годзе аддзялілася ад рускай кафедры. Супрацоўнікі – людзі розныя, але няшмат пра іх вядома. Мабыць, каб больш даведацца пра сваіх калег і выспела задума пад рубрыкай "Партрэт кафедры". Гэта была другая спроба правядзення такой сустрэчы. А чалавек, пра якога павінны былі весці гаворку на гэты раз – гэта творца, літаратуразнаўца, дацэнт Лідзія Савік.

Першы партрэт спадарыні Савік належала намаляваць калезе, загадчыцы кафедры Вользе Аляксееўне Гуліцкай. Яна зрабіла гэта так: адразу расказала вядомыя моманты з біяграфіі калегі, а потым – пра яе працу. Прысутныя даведаліся, што малавядомая літаратуразнаўца выдала больш за 400 артыкулаў, манаграфій, кніг. А якія цікавыя назвы яе прац: "Космас беларуса", "Беларускія пісьменнікі" і інш. Добры водгук на працу выказала сп. Гуліцкая, якая заўважала далікатнасць, прыстойнасць, кампетэнтнасць выкладчыка ў Лідзіі Сымонаўне.

Пасля загадчыцы кафедры слова атрымалі і студэнты, якія расказалі пра сваю выкладчыцу, як пра добрую, справядлівую, прыгожую жанчыну.

Таццяна Вабішчэвіч – студэнтка пятага курса распавядала пра тое, як добра ставіцца выкладчыца да ўласнай думкі студэнтаў. А Наталля, студэнтка чацвёртага курса, расказала пра першую сустрэчу з Лідзіяй Савік.

Лідзія Сымонаўна -- удзельнік шматлікіх грамадскіх арганізацый, сябар Саюза пісьменнікаў, сябар Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Затым характарызаваць сваю калегу пачала старшыня Саюза пісьменнікаў В. Іпатава. Спадарыня Вольга расказала пра тое, як Л. Савік падказала ёй сысці з такой вялікай пасады, як галоўны рэдактар "Культуры" і пачаць старанна гістарычныя раманы. А што датычыцца кнігі "Пакліканыя", то пісьменніца сказала, што яе Савік пісала як даследчыца, адкрывала новае, нязведанае, і калі трымаеш яе ў руках, то сапраўды адчуваеш трагізм тых пісьменнікаў, якія былі ў турмах, у нявол.

А потым і сама вінавайца мерапрыемства расказала пра сябе, пра свой даследчыцкі літаратуразнаўчы шлях, пра любоў да літаратуры. Расказала пра тое, што ў гады сталіншчыны быў знішчаны "цвет нацыі", толькі з Саюза пісьменнікаў было рэпрасавана больш чым 300 чалавек. З яе слоў відаць, што ў нашай літаратуры яшчэ шмат белых плямаў – якія закрытыя ад нас, моладзі. Так лічыць Лідзія Савік.

На завяршэнне адбыўся дыялог з прысутнымі.

*І. Секяржыцкая.*

